*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№454 • Травень 1998 г.**
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

**прэзыдыюм**

## ЗАКЛІК ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

3 траўня 1998

Дарагія Суродзічы!

Падчас Сэсіі Эўрапейскага Сэктару Рады БНР, у ліпені 1997 году ў Вільні, паўстала ініцыятыва магутнага руху за дэмакратычны лад і дзяржаўную незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны, руху грамадзянства БНР. Ініцыятарамі гэтага руху былі чатыры беларусы-патрыёты, якім я тут кланяюся: Вінцук Вячорка, Сяргей Дубавец, Сяргей Шупа й Сяржук Сокалаў-Воюш.

Тысячы нашых суродзічаў ужо злажылі заявы вернасьці ідэалам БНР, вернасьці незалежнай, дэмакратычнай, вольнай нашай рэспубліцы, дзе правы чалавека ня будуць пустаслоўем, дзе народ наш будзе заможным гаспадаром у сваім уласным доме.

Дасюль акцыя запісваньня ў грамадзянства БНР праводзілася галоўным чынам Беларускім Народным Фронтам і газэтай «Наша Ніва». Тут хачу выказаць БНФ, а таксама Маладому Фронту, і «Нашай Ніве» ўдзячнасьць за ўсё зробленае й спадзяваньне, што акцыю гэтую яны будуць прадаўжаць.

Зьвяртаюся сёньня да ўсіх сяброў дэмакратычнай Апазыцыі, усіх грамадзянаў Беларусі, якія хочуць прысьпешыць паварот да нармальнасьці ў нашай краіне, прысьпешыць паварот Беларусі ў Эўропу. Зьвяртаюся да ўсіх суродзічаў, якія падпісалі «Хартыю 97»,

ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА РУХУ ГРАМАДЗЯНСТВА БНР!

Разам мы зробім нашую Бацькаўшчыну незалежнай і вольнай эўрапейскай дзяржавай, зь якой ня трэба будзе эміграваць, каб шукаць на чужыне лепшых умоваў жыцьця, дзяржавай БЕЛАРУСКАЙ, улады якой ня будуць зьдзекавацца з нашай спадчыны, нашай мовы, нашай культуры ды нашых людзей толькі за тое, што яны адмаўляюцца здрадзіць сваю Бацькаўшчыну.

Разам мы адродзім Беларускую Народную Рэспубліку!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**Івонка Сурвілла**
*Старшыня Рады*
*Беларускай Народнай Рэспублікі*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

урачыста адчыніўся 8 траўня ў памешканьні Музэю М. Багдановіча ў Менску. Апошнім часам дэмакратычныя сілы ў Беларусі пачынаюць разгортваць пазытывісцкую дзейнасьць у галіне адукацыі. Першым вынікам гэтых намаганьняў стала заргнізаваньне недзяржаўных Народнага Ўнівэрсытэту, якія пашыраюць асьвету пераважна ў галіне сацыяльна-эканамічных навукаў.

Узьнікненьне Беларускага Калегіюму — годны працяг пазытывісцкай палітыкі з боку апазыцыйнай рэжыму часткі грамадзтва. Аднак у адрозьненьне ад Народнага Ўнівэрсытэту, гэтая ўстанова будзе мець выразна беларускі характар і акцэнтаваць увагу на гуманітарных дысцыплінах.

## СНД КАНАЕ?

Апошні саміт кіраўнікоў краін СНД чарговы раз прадэманстраваў эфімэрнасьць гэтага наддзяржаўнага ўтварэньня — за пышнай шыльдай хавасцца нязадольнасьць (а мо нежаданьне?) наладзіць парытэтнае супрацоўніцтва, а на ролю малодшанькіх былыя савецкія рэспублікі не згаджаюцца.

Як спробу выратаваць СНД ад поўнага заняпаду можна расцэньваць прызначэньне на пасаду кіраўніка каардынацыйных структураў СНД мільярдэра Барыса Беразоўскага — прадстаўніка Расеі.

Нагадаем, што да Беразоўскага гэтую пасаду займаў безгалоса-безініцыятыўны прадстаўнік Беларусі Іван Каратчэня, які застанецца ў памяці беларусаў хіба дзякуючы скандалу з крадзеным «Мэрсэдэсам». Замена Каратчэні на Беразоўскага па-рознаму ацэньвасцца аналітыкамі. Адзінае, на чым сыходзяцца, здаецца, усе — гэта на прызнаньні, што Беразоўскі — чалавек энэргічны й хітры.

Чаго нам, беларусам, чакаць ад гэтай ратацыі? З аднаго боку, Беразоўскі можа ажывіць СНД, напоўніць гэтае ўтварэньне палітычным і эканамічным зьместам. Для Беларусі гэта можа азначаць найперш далейшую інтэграцыю, хоць інтэграцыя ў рамках СНД уяўляецца не настолькі татальнай, як у рамках Расейска-Беларускага Саюзу. Бо-ж, як кажуць, разам і бацьку сьмялей біць (ці не на ролю такога бацькі ўвесь час прэтэндуе Расея?).

Зь іншага боку, усім вядомая ўзаемная непрыязнасьць Беразоўскага й Лукашэнкі, якая летась вылілася ў справу Шарамета. Хоць пазьней Беразоўскі й Лукашэнка прадэманстравалі замірэньне, аднак наўрад хто паверыць у шчырасьць Лукашэнкі — у Беларусі кожны ведае: «Саша нічога не забывае».

Са зьменаю ля стырна СНД прадстаўніка Беларусі на прадстаўніка Расеі пачалі раздавацца галасы за перанос «сталіцы» СНД зь Менску ў Маскву. Некаторыя ў гэтым пабачылі імкненьне Ельцына выбіць з-пад Лукашэнкі адну з падпорак, бо галава Расеі асьцерагаецца актыўнасьці свайго беларускага калегі што да будучых прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі.

На нашу думку, перанос штаб-кватэры СНД зь Менску ў Маскву, калі й адбудзецца, наўрад накіраваны наўпрост супраць Лукашэнкі. Аднак тое, што Лукашэнку ў Маскве лічаць сур'ёзным супернікам у дужаньні за маскоўскі пасад ня толькі лева-правыя, але й уладныя колы, — цяпер стала несумненным.

**Дамінік Лось**



27 красавіка ў Нью Ёрку пасьля працяглае хваробы закончыў свой жыцьцёвы шлях ведамы грамадзкі дзеяч, заснавальнік і доўгадовы Старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябра Рады БНР і Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, рэдактар цэлага шэрагу беларускіх выданьняў, у тым ліку й газэты «Беларус»

**др. ВІТАЎТ ТУМАШ**

аб чым з сумам паведамляюць сям'я, Галоўная Ўправа БАЗА, Прэзыдыюм Рады БНР, БІНІМ.

## ЛУКАШЭНКА ТРАПІЎ У ДЗЯСЯТКУ

Гэтым разам — у дзясятку ворагаў незалежнай прэсы.

Традыцыйна напярэдадні 3 траўня — Сусьветнага Дня Свабоды Друку — міжнародная арганізацыя Камітэт у Абарону Журналістаў (Committee to Protect Journalists — CPJ) сярод палітычных дзеячоў краін сьвету вызначае 10 самых лютых ненавісьнікаў фундамэнтальнага права чалавека — права распаўсюджваць і атрымваць інфармацыю.

Лукашэнка трапіў у вельмі экзатычную кампанію, дзе апроч яго знайшлі сабе пачэснае месца правадыр ісламскіх тэрарыстаў у Альжыры, нігерыйскі генэрал-узурпатар, прэзыдэнты Кітая, Інданэзіі ды Альбаніі, прэм'ер-міністры Турэччыны й Этыёпіі, дыктатар Бірмы, а такамі Фідэль Барадаты.

## САМЫ КРАСАМОЎНЫ

У мінулым нумары мы паведамілі пра тое, хто самы бедны ў Беларусі. Гэтым разам нам стала вядома, хто-ж надзелены нямеранымі здольнасьцямі ў галіне журналістыкі. Вы ўжо здагадаліся? Слушна! Ізноў Аляксандар Рыгорыч!

30 красавіка А. Лукашэнка атрымаў у Расеі прэмію імя Шолахава ў галіне журналістыкі. Цырымонія прэміяваньня адбывалася ў Літаратурным Інстытуте імя вялікага пралетарскага пісьменьніка М. Горкага. Зрэшты й само прозьвішча Шолахаў асацыюецца з апалягетыкай калектывізацыі.

Цікава, што й тут імя кіраўніка Беларусі суседзіла зь імем кіраўніка Кубы (гл. вышэй): Фідэль Кастро, ды яшчэ й Радаван Караджыч — міжнародны злачынца, які знаходзіцца ў вышуку, каб паўстаць перад Гаагскім Судом, — былі сярод кандыдатаў на гэтую прэмію.

Цяпер зразумела, чаму Лукашэнка завязвае раты незалежным журналістам: баіцца канкурэнцыі на журналісцкай ніве!.. А мы ўсё «свабода слова», «свабода слова»...

У тэлевізійным інтэрвію з нагоды прэміяваньня тытан сучаснай журналістыкі параўнаў Расею з «Тытанікам», які ідзе на дно й пры гэтым зацягвае ў свой «кратэр» Беларусь.

Аднак тады хто як ня сам Лукашэнка пастараўся намёртва прывязаць да расейскага «Тытаніка» беларускую лодку?!

**І.С.**

# 25-Я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў САЎТ РЫВЭРЫ




У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры з 22 да 29 сакавіка прайшла 25-я штогадовая выстаўка беларускага прафэсійнага й народнага мастацтва. Адчыніла яе, як заўсёды, мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко, прывітаўшы гасьцей і падзякаваўшы мастакам-удзельнікам і арганізатарам. Янка Запруднік прачытаў кароткі ўрывак з «Апокрыфу» Максіма Багдановіча, у якім красамоўна асэнсаваная роля мастацтва ў штодзённым жыцьці чалавека.

Запачаткаваньне мастацкіх выставак у Саўт Рывэры пазначыла свайго роду новы гістарычны этап у жыцьці навакольнай беларускай грамады, выстаўкі сталіся вынікам завяршэньня пабудовы ў 1972 годзе царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай, а пры ёй — вялікай залі са сцэнай, кухняй, барам ды іншымі памешканьнямі. Усё гэта разьмясьцілася на маляўнічай ускраіне гораду на прасторным пляцы ў тры акры. Паміж царквой і заляй ды навокала іх было дастаткова месца на паркінг, пасадку памяткавых дрэваў ды на курганок з помнікам беларускім героям. Новае месца спрыяла нараджэньню новых ініцыятываў.

Ідэю выставак падалі старэйшыя грамадзкія дзеячы: Барыс Шчорс, Ксенафонт Вайцяхоўскі, Іван Касяк, Антон Даніловіч ды іншыя. Яны падказалі малодшым сябрам, што ў грамадзе ёсьць дастаткова экспанатаў, каб наладзіць паказ. І сапраўды, сярод беларусаў Саўт Рывэра й навакольных мясьцінаў было ці мала людзей таленавітых і творчых. Апрача гэтага, на руках у людзей знаходзіліся народныя вырабы, якія можна было сабраць разам для паказу й беларусам — як напамін пра Бацькаўшчыну — і іншым людзям.

Ініцыятыва мастацкіх выставак неўзабаве знайшла сваіх энтузіястаў. Асабліва энэргічна ўзялася за справу маладая выпускніца мастацкага каледжу ў штатце Пэнсыльванія Ірэна Рагалевіч (пазьней — Рагалевіч-Дутко), якая праз усе далейшыя гады выдатна выконвае ролю кіраўнічкі выставак.

На першы паказ сабралі, хто што меў, і экспанатаў набралася даволі, каб пераканацца, што насамрэч паказваць ёсьць што. Першая выстаўка сагрэла сэрца й арганізатарам, і наведнікам. Пасьля яе людзі пачалі знаходзіць у сябе іншыя цікавыя рэчы. І на далейшыя паказы экспанатаў набіралася ўжо нават больш, чымся было месца для экспанаваньня. Давялося рабіць адбор.

Час выставак прымеркавалі да адзначэньня ўгодкаў Акту 25 Сакавіка — найбольш урачысты момант у грамадзка-культурным жыцьці беларускае супольнасьці. Як правіла, выстаўка адчыняецца ў нядзелю — за тыдзень да сакавіковага сьвяткаваньня. У гэты дзень папаўдні прыхаджане царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай і запрошаныя госьці сыходзяцца ў залю Беларускага Грамадзкага Цэнтру, багата запоўненую экспанатамі. Тут працы мастакоў, у тым ліку часам зь Беларусі; умельцаў; фатографаў; народныя вырабы (дзяружкі, вопратка, вязаньне), а таксама іншыя прынагодныя экспанаты, прысланыя з Бацькаўшчыны (прыкладам, дзіцячыя малюнкі пра чарнобыльскую катастрофу).

Гэтым разам гледачы ўбачылі мастацкія палотны з краявідамі (пераважна беларускімі, але таксама й амэрыканскімі), з архітэктурнымі помнікамі, партрэтамі (у тым ліку постаці беларускай гісторыі). Знайшлося месца й для іконаў, разнастайных дэкаратыўных вырабаў ды кніжных выданьняў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Усе экспанаты разьмешчаныя на сьценах і на пакрытых ручнікамі ды дзяружкамі сталох.



*Частка арганізатараў і ўдзельнікаў сёлетняй выстаўкі (справа): Ірэна Рагалевіч-Дутко, Тамара Кольба, Люда Махнюк (за Тамарай Кольба), Алег Махнюк, Ніна Сільвановіч, Валерыя Яўтуховіч, Алекс Сільвановіч, Люда Літаровіч, Надзя Запруднік, Галіна Русак, Янка Запруднік.*

У наступную нядзелю ў гэтай-жа, удэкараванай мастацкімі вырабамі, залі праходзіць урачыстае сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, на якое прыходзяць і свае, і госьці, у тым ліку прадстаўнікі мясцовых уладаў, а часам і кангрэсмэны.

Мастацкія выстаўкі ў Саўт Рывэры сталіся выяўленьнем вернасьці замежных беларусаў ідэалу свабоды краіны свайго паходжаньня, довадам іхных намаганьняў узгадоўваць маладое пакаленьне на грамадзянаў Амэрыкі, якія ведалі-б пра Беларусь, сыіную культуру й ейныя праблемы.

25-гадовая традыцыя мастацкіх выставак у Саўт Рывэры, на якіх паказвалі свае абразы й экспанаты каля двухсот асобаў, вартая таго, каб яе працягваць.

У сёлетняй выстаўцы ўзялі ўдзел 22 мастакі й 16 умельцаў.

Рыхтуецца да друку альбом, у якім будуць пададзеныя рэпрадукцыі твораў мастакоў-удзельнікаў 25ці выставак і сьпіс усіх асобаў, што давалі свае экспанаты.

**Янка Запруднік**



*Літаграфія «Чорнае сонца». Аўтар — удзельніца выстаўкі Галіна Русак.*



*Ірэна Рагалевіч-Дутко, адчыняючы выстаўку, вітае гасьцей. Фота Алекса Сільвановіча.*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Івонка Сурвілла:
# «Я ЎСЁ ЖЫЦЬЦЁ ДУШОЙ НА БЕЛАРУСІ...»

**Апошнім часам значна ўзьнялася цікавасьць да Рады БНР і да асобаў, якія рэпрэзэнтуюць гэты орган. Сёньня мы публікуем размову са Старшынёй Рады БНР спадарыняй Івонкай Сурвіллай, якая адбылася 30 сакавіка ў Нью Ёрку ў часе Сакавіковых Сьвяткаваньняў.**

**«Беларус»:** *Спадарыня Івонка, вельмі прыемна было бачыць Вас учора на сьвяткаваньні 80-х угодкаў БНР. Але сёньня хацелася-б паразмаўляць не на палітычныя тэмы. Думаю, чытачам нашай газэты было-б цікава пазнаёміцца з Вамі ня як са Старшынёю Рады БНР, а зь Івонкай Сурвіллай як чалавекам: хацелася-б даведацца, чым Вы жывяце, што Вас вабіць, што цікавіць? Распавядзіце, калі ласка, пра сябе.*

**Івонка Сурвілла:** Жыву я ў сталіцы Канады, Атаве, ужо амаль трыццаць гадоў. Да 1996 году працавала ў Фэдэральнай адміністратыўнай структуры. Пачынала як перакладчыца з ангельскай на францускую мову, пасьля працавала адказнай за аддзел перакладаў з усіх іншаземных моваў на францускую, пасьля загадвала аддзелам перакладаў з ангельскае на францускую ў Міністэрстве Здароўя.

**«Б.»:** *Спадарыня Івонка, фантастычная рэч: Вы, беларуска, прафэсійна перакладалі з ангельскае на францускую мову...*

**І. С.:** Нейкі час я жыла ў Францыі: з канца пачатковай школы, а пасьля ў сярэдняй і ва ўнівэрсытэце я вучылася пафранцуску. Таму французкая — гэта мова, якую я ведаю найлепш, нават лепш за беларускую.

**«Б.»:** *А ці вучыліся Вы па-беларуску дзе-колечы, апроч як у сям'і?*

**І. С.:** Толькі ў 1-й і 2-й клясах пачатковай школы, яшчэ на Беларусі, у часе нямецкай акупацыі. Першы год вучыла беларускую лацінку, а другі кірыліцу. А як мы прыехалі ў Данію, у лягеры мой тата ўзяўся вучыць нас з братам па-беларуску па кніжцы з гісторыі Беларусі. Такім чынам мы адначасна вучылі й гісторыю Беларусі й мову. У хаце з бацькамі заўсёды гаварылі па-беларуску. Таму тое, што я размаўляю па-беларуску, — гэта заслуга маіх бацькоў. Наступны мой настаўнік беларускай мовы быў мой муж. Што да іншых моваў, то ва ўнівэрсытэце я вучылася на аддзяленьні сучасных моваў. Асноўным прадметам была ангельская, а другім — скандынаўскія мовы (найперш данская). Так што зусім нармальна, што я гэтыя мовы ведала дастаткова, каб працаваць зь імі.

**«Б.»:** *Наконт ангельскай зразумела, а чаму данская?*

**І. С.:** З данскаю выйшла даволі цікавая гісторыя. Першая краіна, у якой мы даўжэй запыніліся, як выехалі зь Беларусі, — гэта Данія. Тады, пасьля страшнай вайны, гэтая краіна здалася нам раем. У Даніі мы жылі ў лягеры, і там людзі між сабой гаварылі па-нямецку, бо гэта была мова, якую ведалі ва ўсіх краінах, што трапілі пад нямецкую акупацыю; ведала яе й я. Аднаго разу да мяне на вуліцы зьвярнулася жанчына. «Хто ты?» — спытала яна. Я адказала па-нямецку. Тады жанчына пацікавілася, чаму я не адказваю ёй па-данску. Я сказала, што ня ўмею. «Прыходзь сюды кожны дзень, — прапанавала жанчына, — і я буду вучыць цябе па-данску». Так я пачала вучыць данскую мову, праз пару месяцаў мяне запісалі ў данскую школу. Таму пазьней, у Францыі, ва ўнівэрсытэце, разам з ангельскай я ўзяла скандынаўскія мовы.

**«Б.»:** *Я чула, што Вы валодаеце яшчэ й гішпанскай мовай.*

**І. С.:** Так, даволі доўга — 10 гадоў — я з мужам жыла ў Гішпаніі, і мы разам працавалі ў беларускай рэдакцыі Гішпанскага Радыё. Таму была магчымасьць навучыцца й па-гішпанску.

**«Б.»:** *Спадарыня Івонка, Вы аб'ехалі паўсьвету, жылі ў Даніі, Францыі, Гішпаніі, зараз у Канадзе. А ці давялося Вам пабываць пасьля вайны ў Беларусі?*

**І. С.:** Так, у 1992 годзе. Я тады езьдзіла на канфэрэнцыю «Сьвет пасьля Чарнобыля», бо ў той час старшынявала ў арганізацыі Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Мы з канадыйскімі беларусамі залажылі гэты фонд, і я вельмі ганаруся, што мы здолелі дапамагчы нашым беларускім дзеткам... Што да паездкі, то гэта быў адзін з найшчасьлівейшых момантаў у маім жыцьці.

**«Б.»:** *Што вы бачылі ў Беларусі?*

**І. С.:** Вельмі шмат бачыла. Па-першае, была на канфэрэнцыі, пасьля разам з братам Лявонам адведала ўвесь Стаўпецкі раён, адкуль паходзіла сям'я майго таты, а таксама мясьціны, дзе нарадзіўся мой муж, — Вялейшчына, Смаргоншчына. Там спаткалі дзядзьку майго мужа, Эдварда, які вучыў яго чытаць, калі той быў зусім маленькі. І дзядзька Эдвард, які меў тады, здаецца, 92 гады, прадэклямаваў увесь «Курган» Янкі Купалы! Таксама была ў Вільні, там спаткалася зь Лявонам Луцкевічам і цэлай групай беларусаў. Я была захопленая Вільняй. Цяпераха мару, каб туды паехаць і маляваць — маляваць Вільню. Спадзяюся, што некалі змагу дабрацца. У Менску наведвала музэі, сустракалася з мастакамі. Але самае важнае — мы пабывалі ў беларускіх шпіталях, дзе бачылі шмат вельмі хворых дзетак. Гэта была надта сумная частка нашага падарожжа.

**«Б.»:** *Ці ўдзельнічаеце Вы цяпер у працы Фонду?*

**І. С.:** Пасьля таго, як я была абраная Старшынёй Рады, вырашыла пакінуць пасаду старшыні Фонду.

**«Б.»:** *А ці адчуваеце Вы, што ў Беларусі зьмянілася стаўленьне да Рады БНР і да Вас асабіста?*

**І. С.:** Апошнім часам так.

**«Б.»:** *Як Вы ацэньваеце гэтыя зьмены?*

**І. С.:** З аднаго боку, гэта вельмі пазытыўныя зьмены, з другога боку, я ніколі не спадзявалася, што мяне пачне атакаваць расейская камуністычная прэса.

**«Б.»:** *Газэта расейскіх камуністаў «Правда» назвала Вас фашысткай. Гэта нагадвае выпадак зь Зянонам Пазьняком: пра яго савецкая прапаганда крычала, што ён у часе Другой сусьветнай вайны быў паліцаем. А ў сапраўднасьці спадар Зянон нарадзіўся ў 1944 годзе, таму ніякім паліцаем ня мог быць проста фізычна.*

**І. С.:** Калі скончылася вайна, у 1945 годзе, мне было дзевяць гадоў. Але тым ня менш, і мяне «фашысьцяць» (слова Кастуся Акулы). Гэтыя напады неспадзяваныя, але калі так пішуць, значыць, пераняты нашай працай.



**«Б.»:** *Спадарыня Івонка, што Вам падабаецца рабіць у вольны час?*

**І. С.:** Вельмі люблю мастацтва. Я спадзявалася, што як перастану працаваць, то буду маляваць. З самага маленства малюю. Пачала была вучыцца ў Вышэйшай Мастацкай Школе ў Парыжы, але ў Францыі вельмі цяжка жыць мастаку, бо іх там так шмат! І паколькі я не спадзявалася нікуды выяжджаць, то мне па пэўным часе пачало здавацца, што лепш вучыцца таго, чым можна зарабіць сабе на хлеб. Дзеля гэтага перайшла ў Сарбону, каб вучыцца моваў. Але каб мела магчымасьць, дык я толькі малявала-б. Дарэчы, мой тата, Уладзімер Шыманец, таксама маляваў. І мая дачка Паўлінка здольная мастачка й фатограф.

**«Б.»:** *А што Вы малюеце?*

**І. С.:** Бальшыня маіх твораў — на беларускія тэмы. Калісьці падабалася маляваць архітэктурныя помнікі Беларусі. Пэўны час я вельмі актыўна займалася афортамі. Найбольш люблю маляваць партрэты. Мяне цікавяць твары людзей.

**«Б.»:** *Ці Вы ўдзельнічаеце ў якіх мастацкіх імпрэзах?*

**І. С.:** Так, калі ёсьць магчымасьць, то я ўдзельнічаю ў выстаўках. Гэта вельмі добрая нагода, каб пашыраць беларускую прысутнасьць у сьвеце: я заўсёды падкрэсьліваю сваю беларускасьць. Агуламжа мае працы выстаўляліся на каля 30 выстаўках у ЗША й Канадзе. Сёлета ў Беларусі мае афорты выстаўляліся на аднэй з выставак мастацкай суполкі «Пагоня».

**«Б.»:** *А якія літаратурныя творы мелі на Вас найбольшы ўплыў?*

**І. С.:** Самы любімы мой твор літаратуры — «Апокрыф» М. Багдановіча. Пасьля — «Цячэ з-пад сьвятой гары Нёман» Юркі Віцьбіча й «Сымон-музыка» Якуба Коласа.

**«Б.»:** *Раскажыце пра вашую сям'ю.*

**І. С.:** У мяне двое дачок. Паўлінка робіць дактарат у беларускай этнамузыкалёгіі, а таксама выкладае музыкалёгію ва ўнівэрсытэце штату Аёва. Замужам за канадыйцам. Другая мая дачка — Ганна — працуе ў зусім іншай галіне: яна студыявала матэматыку, пасьля справаводзтва. Выйшла замуж за француза, зараз жыве ў Францыі, мае двое дзетак. Абедзьве мае

(Працяг на с. 4)

## САКАВІКОВЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў САЎТ РЫВЭРЫ, Н.ДЖ.

У суботу 28 сакавіка перад Гарадзкою Управаю быў падняты бел-чырвона-белы сьцяг. Мэр гораду Томас Тото прачытаў праклямацыю й абвясьціў дзень 29 сакавіка Беларускім Днём у Саўт Рывэры. Наступна, ужо па традыцыі, радныя гораду былі запрошаныя ў Грамадзкі Цэнтар на пачостку.

У нядзелю 29 сакавіка ў царкве імя Сьв. Еўфрасіньні Полацкай, пасьля Сьвятое Літургіі а. Мячыславам быў адслужаны малебен за беларускі народ. А 3-ай гадзіне ў залі Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная сакавіковым угодкам, якая распачалася адсьпяваньнем амэрыканскага нацыянальнага гімну. Адчыніў акадэмію прамовай у ангельскай мове сп. Робэрт Цупрык. Прачытаў ён праклямацыі губэрнатара штату Нью Джэрзі Крысты Ўітман і мэра гораду Томаса Тото. Сп. М. Сенька прачытаў прысланыя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў з Аўстраліі, Амэрыкі й Беларусі.

Вельмі прыгожы рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. Расьціслаў Завістовіч — Старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. Прамова сп. Віталія Цярпіцкага была прысьвечана жыцьцю беларусаў у Саўт Рывэры.

У мастацкай частцы сп. Віла Ляўчук прадэклямавала свае два вершы, а браты Яўтуховічы — Зьміцер на электрапіяна й Алесь на скрыпцы — выканалі клясычныя музыкальныя творы й цэлы шэраг народных і сучасных песьняў.

Адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» было закончанае сьвяткаваньне.

**М. С.**

## НАВІНКІ ІНТЭРНЭТУ

Напэўна, самая галоўная заваёва беларускай віртуальнай прасторы апошняга часу — афіцыйная старонка Рады БНР **(http:// www.bnr.org)**. На Інтэрнэце й раней былі старонкі, прысьвечаныя гісторыі БНР **(http://www.thing.net/~ap/belarus/bdr. html)**, Пётру Крэчэўскаму **(http://www.thing.net/~ap/belarus/writers/krec. html)**, Васілю Захарку **((http://www.thing.net/~ap/belarus/writers/zacharka. html))**. Але новая старонка мае адную істотную адметнасьць — яна адлюстроўвае ***сёньняшні*** стан Рады БНР, працу Прэзыдыюму, зьмяшчае бягучыя дакумэнты. Старонка падтрымліваецца ў дзьвюх мовах — беларускай і ангельскай, прычым матар'ялы далёка не заўсёды дублююца. Сярод зьмешчанага — сьпіс сяброў Прэзыдыюму Рады, Устаўныя граматы, Статут Рады БНР, рэзалюцыі, прынятыя за апошні час, адрасы для кантактаў.

Таксама со сьвежага старонка Анатоля Цітова **(http://www.o-c-s.com/belarus/Titov.htm)**. Калі быць больш дакладным — гэта рэкляма апошняй кнігі вядомага гісторыка «Геральдыка беларускіх местаў», выдадзеная ў лютым 1998 г. Каштуе яна $55. У беларускай мове, з каляровымі ілюстрацыямі, 429 бачын.

Цікавыя матар'ялы знайшлі прытулак на яшчэ адной прыватнай старонцы — Сяргея Палевікова **(http://www.ruf.rice.edu/~sergei/)**, раім зазірнуць.

# ДА ГІСТОРЫІ АНТЫСАВЕЦКАЙ ПАРТЫЗАНКІ НА БЕЛАРУСІ

*Тэма антыбальшавіцкіх паўстаньняў, якая знайшла найбольш поўнае адлюстраваньне ў вядомай працы Юркі Віцьбіча, цікавіла й іншых дасьледнікаў. Алесь Вініцкі, прыкладам, удакладняў дату паўстаньня на падставе ўласных дакумэнтаў. У лісьце да Ю. Віцьбіча з нагоды артыкула апошняга «Як гэта было ў запраўднасьці. Да 50-годзьдзя Нясьвіскага паўстаньня» ад 7.09.69 ён пісаў: «Хачу сьцьвердзіць маё сьведчаньне аб даце паўстаньня ў Нясьвіжы фотадакумэнтам ад 15.4.1919 г. за нумарам 6556. Ражок «Удостоверения» адарваў на прыкурку. Быў у дарозе, захацелася курыць, махорка была, а паперы не знайшоў, таму й выкарыстаў яго».*

*Гісторыя паўстаньняў, постаці змагароў сталіся ня толькі прадметам росшукаў і аднаўленьня, але й спрэчак — і не адно з савецкімі гісторыкамі. Аўген Калубовіч (Каханоўскі) у 1955 годзе пачаў пісаць успаміны пра партызана Сапляка — з унутранай палемікай да артыкулаў Юркі Віцьбіча, — але ня скончыў. Арыгінал рукапісу, які публікуецца ніжэй зь нязначнымі скарачэньнямі, захоўваецца ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага.*

***Л. Ю.***

Правільнае імя Сапляка — Алесь. Паходзіць ён зь сяла Стрэлічава Хойніцкага раёну. Дзеля таго, што ў Стралічаўскім саўгасе й бровары мой бацька ад 1924 да 1938 году быў бухгалтарам, я шмат там жыў, асабліва калі вучыўся ў Бабчынскім пэдагагічным Тэхнікуме (6 км ад Стрэлічава). Самога Сапляка я бачыў шмат разоў, два разы гутарыў зь ім. Ведаю ягонага старэйшага брата, які жыў у Стрэлічаве, і ягоную сястру — жонку аднаго рабочага саўгасу. Аб ім створана на Палесьсі столькі легендаў, што толькі людзі, якія жылі блізка тых мясьцін і ведалі добра яго, могуць аддзяліць праўду ад легенды. Наагул у ягонай асобе спалучаны партызан і бандыт: чаго было болей — сказаць цяжка. Ён паходзіць з зладзейскай сям'і: ягоны старэйшы брат быў шырока знаным злодзеем, але, пацягаўшыся па турмах, вылечыўся ад гэтае хваробы й стаўся сумленным чалавекам. Сам ён ледзь не зь пялёнак быў дробным злодзеем, амаль ніколі ня жыў дома, а ад 12 год пайшоў у лес. Калі яго забілі, яму было толькі якіх 24–26 год. Гэта было ў 1928 годзе. Апошнія гадоў шэсьць ён быў болей партызанам, чымся бандытам. Найбольшы ўплыў у гэтым кірунку зрабіў на яго ягоны сябрай, памочнік Сямкоў — былы студэнт Мазырскага Пэдагагічнага Тэхнікуму, якога, як сына кулака, звольнілі з тэхнікуму дзесь у 1926–27 годзе, і ён проста з Мазыра пайшоў у лес, да Сапляка. З глездзішча ідэалягічнага Сямкоў быў самай сьветлай фігурай у атрадзе Сапляка, бо ён далучыўся да яго з мэтаю помсты, палітычнага змаганьня супроць савецкае ўлады. Такі кірунак атраду Сапляка галоўна ён надаў, хоць, праўда, гэтыя моманты былі ў Сапляка й раней. Іншыя-ж сябры атрада — Каган з Кобрыну, Лобан і г.д. — пераважна злодзеі й бандыты.

Дзеля таго, што Сапляк быў амаль няпісьменны (ён зусім ня вучыўся ў школе, а чытаць і пісаць трохі навучыўся сам), ён мала кантраляваў гэтых сваіх сяброў, хоць сам рабаваў галоўна пошту ці іншыя ўстановы, а людзей не чапаў. Гэткі стан рэчаў клаў і на яго пляму зладзейства й бандытызму. Загінуўжа ён не апошнім, а першым. Яго забілі ў правакацыйны спосаб у сяле Кухнаўшчына Хойніцкага раёну (гэта сяло хутароў у лесе, дзе была адна зь ягоных кватэраў). Зь ім быў і Сямкоў, але ўцёк. Апошнія два гады помсьціўся за Сапляка, але быў таксама забіты. Потым быў забіты Лобан. А рэшту атрада судзілі ў 1930 г. у Гомелі; быў даўгі працэс, цягнуўся штось два месяцы, выклікалася колькі сот сьведак. Іх усіх расстралялі. Калі мяне перавялі з турмы НКВД у сьмяротную камэру Гомельскай турмы (нумар 22), я расчытаў на яе сьцяне надпіс, зроблены, відаць, зраненым пальцам. Ня памятаю цяпер дакладнага тэксту, але гэта Каган паведамляў, калі ён будзе расстраляны. Сапляк быў дужа таленавітым чалавекам, а ў вайскова-партызанскіх справах проста геній, але ідэалягічна-маральнае недасьведчаньне й неадпаведныя сябры належылі на яго пляму бандытызму. Таму, на мой пагляд, толькі добра ведаючы аб ім факты й спрытна лавіруючы ачышчэньнем ад гэтых праяваў бандытызму, зь невялікай рызыкай можна рабіць зь яго героя.

Затое знаны на нашым Палесьсі Хомка (Хама Андрэеў Бакіноўскі) зь сяла Хобнае Хойніцкага раёну быў партызанам антыбальшавіцкім у поўным значэньні гэтага слова. Гэта сын селяніна, які скончыў юрыдычны факультэт Пецярбурскага Ўнівэрсытэту, вярнуўся падчас польскае акупацыі дадому, змагаўся супроць палякоў, а потым, да 1926 г., супроць бальшавікоў. У раёне свайго дзеяньня (Хойніцкі, Васілевіцкі, Калінкавіцкі, Мазырскі й блізкія ім раёны) ён сам расстрэльваў зладзеяў, а ў тым і аднаго свайго сябру, які выдраў мёд у вульлі. Хомка ня менш легендарны за Сапляка, і ўсе савецкія ўстановы на Палесьсі дрыжэлі перад ім, нат атрады міліцыі, а ў тым і конныя, якія ён раззбройваў. Гэта крыштальна чысты пад паглядам ідэйным і маральным партызан.


Под'отдел Общий
«15» Апреля 19..
№ 6556
гор. Минск

У Д
Действит...

Дано сие студенту Минскаго педа[гогическаго] Института Алексею ВИНИЦКОМУ в том, что ему разрешается провезти из се[ла] Малево Слуцкаго уезда в г. Минск ржаной муки тридцать фун., крупы пять фун., мас[ла] три фун., сала пять фун., картофеля два с половиною пуда, что подписью и приложен[ием] печати удостоверяется.

Заведыв. Отделом Хлебофураж.

Завед. Общим Подотделом

Делопроизводитель

---

# «Я ўсё жыцьцё душой на Беларусі...»

(Працяг з с. 2)

дачкі гавораць па-беларуску, унукі яшчэ не, яны маленькія, адзін дык яшчэ наагул не гаворыць. Але я навучу...

**«Б.»:** *Як Вы пазнаёміліся з сваім мужам, таксама ведамым чалавекам у беларускіх колах?*

**І. С.:** Мы пазнаёміліся ў Парыжы на Сусьветным Зьезьдзе Беларускай Эміграцыі ў 1948 годзе. Я стаяла пры дзьвярах і прычэплівала беларускія сьцяжкі людзям, якія ўваходзілі ў залю, а тыя клалі на пару франкаў, каб аплаціць арэнду залі ды выдаткі, зьвязаныя са зьездам. І вось прыходзіць адзін малады чалавек і кладзе больш-менш месячны заробак. Я пабачыла й думаю: памыліўся чалавек. Пабегла за ім, кажу: «Спадар, спадар, вы памыліліся, вы палажылі 500 франкаў!» Ён адказвае: «Не-не, я не памыліўся». Мне ён выдаўся тады такі шчодры! І пасьля, як падрасла ўжо, я ня страціла захапленьня Янкам Сурвіллам. Так мы пазнаёміліся. А пазьней пажаніліся. Жылі ў Мадрыдзе, а затым пераехалі ў Канаду.

**«Б.»:** *Ці падабаецца Вам у Канадзе?*

**І. С.:** Так. Што істотна: у Канадзе вельмі шмат эмігрантаў, таму амаль няма пачуцьця, што ты чужынец. І таксама вельмі прыгожая краіна. Мясьціна, дзе я жыву, вельмі падобная прыродаю да Беларусі.

**«Б.»:** *Мы чулі, што канадыйскія беларусы, ня хочуць, каб Квэбэк аддзяліўся ад Канады. Але ў патрыятычных колах у Беларусі такая пазыцыя нашых суродзічаў у Канадзе выклікае найменш зьдзіўленьне, бо, здавалася-б, варта падтрымаць імкненьне народа да самавызначэньня. Бо калі мы хочам, каб Беларусь была вольнаю ад Расеі, то чаму не прызнаць права Квэбэку быць вольным ад англамоўнай Канады?*

**І. С:** Ведаеце, гэтае пытаньне страшэнна скамплікаванае. Абсалютна непадобнае да беларускага пытаньня.

**«Б.»:** *І ў чым гэтая розьніца?*

**І. С.:** У тым, што Квэбэк у Канадыйскай Канфэдэрацыі — цалкам вольная частка Канады. Французы ня толькі вольныя разьвіваць сваю культуру, сваю мову — яны забаранілі ангельскую мову ў школах: калі вы жывяце ў Квэбэку, трэба вучыцца па-француску. Французы робяць усё, каб захаваць сваю культуру, і ім ніхто не перашкаджае. З пункту гледжаньня як эканамічнага, так і культурнага, Квэбэк самастойны й заможны. Чамуж ня хочуць канадыйцы аддзяленьня Квэбэку? Гэта можа вельмі пашкодзіць цэласнасьці Канады. Француская Канады — гэта самая істотная рыса, што адрозьнівае Канаду ад ЗША. Такім чынам, калі Канада страціць Квэбэк, гэта можа азначаць канец Канады як краіны. Падчас апошняга рэфэрэндуму ў Монтрэаль зьехаліся людзі з абсалютна ўсіх частак Канады, каб сказаць квэбэкцам: мы вас любім, мы хочам, каб вы засталіся з намі. Як бачыце, Канада ня мае нейкіх імпэрыялістычных намераў, яна сама змагаецца за сваю культурную адметнасьць. Так што няма такіх захопніцкіх ідэяў зьнішчыць, асыміляваць Квэбэк так, як Расея намагаецца зьнішчыць беларускую культуру.

**«Б.»:** *Што Вы любіце есьці?*

**І. С.:** Найбольш люблю бульбу, асабліва дранікі са сьмятанаю. Магчыма, гэта нагадвае мне пра дзяцінства. Калі я была маленькаю — гады тры-чатыры, то бывала ў Засульлі (гэта 15 кілямэтраў ад Стоўпцаў), дзе жылі мае бабуля зь дзядулем. Яны моцна мяне песьцілі: кожную раніцу бабуля пякла дранікі са сьмятанаю. Яшчэ й цяпер часта ўзгадваю тую пару... Раніцай мяне будзіў певень, сонейка сьвяціла на яблыні ў садзе, і бабулька клікала нас на дранікі са сьмятанай. Гэта адзін з самых цудоўных успамінаў майго жыцьця.

**«Б.»:** *Раскажыце, калі ласка, пра Вашых бацькоў. Як было за іх часоў?*

**І. С.** Мама — яе звалі Эвэліна — нарадзілася ў Ішкалдзі, недалёка ад Баранавічаў, у беларускай каталіцкай сям'і. Нягледзячы на тое, што рана страціла бацькоў, пайшла вучыцца й скончыла Баранавіцкую Гандлёвую Школу. Падчас вайны была настаўніцаю ў пачатковай школе ў Засульлі. Яе й вучні й іх бацькі моцна любілі, таму калі савецкія партызаны, пачалі забіваць беларускіх настаўнікаў, людзі яе папярэдзілі, што й яе шукаюць, каб забіць. І мама мусіла выехаць з Засульля. Тата нарадзіўся ў беларускай праваслаўнай сям'і ў Рызе, дзе працаваў мой дзед. Сям'я вярнулася ў Беларусь пасьля Першай сусьветнай вайны. Мае дзед і бабуля паслалі тату вучыцца ў Віленскую Тэхнічную Школу, якую ён скончыў на «выдатна». Тата з мамаю спаткаліся ў Стоўпцах, на спэктаклі «Птушка шчасьця». Потым тата працаваў галоўным інжынэрам на баранавіцкай электрастанцыі, як у 1939 годзе прыйшлі саветы. Бальшавікі зажадалі ад таты, каб даносіў на сваіх супрацоўнікаў. Але ён, вядома, адмовіўся, і тады яго арыштавалі. Прыйшлі да нас у хату, усё перавярнулі, хацелі забраць мой залаты крыжык, які я мела на шыі. Але я так раскрычала-

# Да гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў

Беларуска-ўкраінскі ўзаемаперaклад ды, шырэй, літаратурныя сувязі на эміграцыі маюць даўгую гісторыю. Гэта й зразумела: аб'яднаныя на Бацькаўшчыне агульным ворагам, яны й на выгнаньні імкнуліся дапамагаць адзін аднаму. Ва ўкраінскіх лягерох ДП паўставалі беларускія суполкі, пры ўкраінскіх выданьнях, што раней атрымалі ліцэнзію на друкарскую дзейнасьць, нараджаліся — часам у якасьці дадаткаў — беларускія газэты. Украінская газэта «Новини» (6.09.1946) пісала: «Переглядаючы нумары літаратурна-мастацкага часапісу «Шыпшына» й органа праваслаўных беларусаў «Зьвіяны Званы Сьвятой Сафіі», мімаволі даводзіцца паўтараць словы «Жыве Беларусь!», жыве краіна, доля якой у мінулым і сучасным такая падобная да долі нашага народу, а часам проста аднолькавая».

Прыязныя адносіны складваліся й паміж пісьменьнікамі, што таксама спрыяла перакладчыцкай дзейнасьці. Перакладалі шмат і ахвотна: М. Кавыль — Я. Славутыча, М. Рыльскага, П. Тычыну; Н. Арсеньнева — М. Драй-Хмару; А. Салавей — Л. Палтаву; М. Сяднёў — Я. Славутыча, Л. Палтаву; Ул. Дудзіцкі — Тараса Шаўчэнку. У 1989 г. ў Эдмантане было выдадзена «Выбранае» Яра Славутыча ў перакладах М. Сяднёва, М. Кавыля, В. Бірыча (А. Адамовіча). У невялічкай зьмястоўнай прадмове М. Сяднёў называе аўтара «вялікім прыяцелем беларусаў».

Перакладалі й нашых паэтаў. У пасьмяротна выдрукаванай кнізе Барыса Александрава-Грыбінскага «Поворот по сліду» (Таронта, 1980) адзначацца: «У неўкраінскіх колах добра ведалі й паважалі паэту, асабліва сярод беларускай эміграцыі, бо нябожчык быў у сяброўскіх адносінах з паэтамі А. Салаўём, М. Сяднёвым ды іншымі й пераклаў на ўкраінскую мову багата беларускіх твораў». Нават здараліся выпадкі, калі беларускі верш зьяўляўся ў друку спачатку па-украінску й толькі пасьля — па-беларуску. Гэтак адбылося зь вершам Ул. Клішэвіча «Пам'яти Якуба Коласа» («Нови дни», №80, 1956).

Асабліва шчыраваў Леанід Палтава, сябра знакамітага літаратурнага аб'яднаньня МУР (нагадаем, што яшчэ адзін сябра гэтага згуртаваньня, Ю. Шавялёў (Шэрах), стаўся адным зь першых крытыкаў беларускай літаратуры на эміграцыі, напісаўшы вялікі артыкул пра «Шыпшыну»). Ён вывучыў беларускую мову на Чарнігаўшчыне, на эміграцыі пазнаёміўся з М. Сяднёвым, С. Станкевічам, Вітаўтам Тумашам. У прадмове да асобнага выданьня паэмы А. Вярцінскага «Заазер'е» ва ўласным перакладзе Л. Палтава таксама зьвяртае ўвагу на супольнасьць гістарычнага лёсу: «Як на Ўкраіне, гэтак і на Беларусі нацыянальныя паэты й пісьменьнікі былі першымі, хто абуджаў народ з нацыянальнай летаргіі, да якой яго зламысна давялі розныя акупанты. [...] У лепшых сваіх творах яны сталі выказьнікамі жаданьняў свайго няскоранага эўрапэйскага народу».

Л. Палтава зьмясьціў у трох нумарох часапіса «Визвольни шлях» (Лёндан, №10–12, 1983–1985) вялікую падборку вершаў пад назовам «Малая анталёгія беларускай паэзіі». У яго перакладах па-ўкраінску загучалі творы Н. Арсеньневай, М. Багдановіча, А. Барскага, А. Вярцінскага, Ларысы Геніюш, В. Іпатавай, Я. Коласа, Я. Купалы, А. Салаўя, Я. Сіпакова, М. Сяднёва, М. Танка, Р. Тармолы, Я. Юхнаўца.

З гэтай анталёгіі перадрукоўваем урывак з «Паэмы» Янкі Юхнаўца.

**(Абурлівасьць струны кранула...)**

*Обурення струни торкнуло.*
*Їм радість давно набридла,*
*Та й пальці музик пречулі*
*Люблять болючі крики.*
*Б'є в бубни дорожна рінь.*
*Із скрипок скапують роси і сльози.*
*Площа у персні руїн,*
*І люди — тінь на дорозі.*
*Дерева грузнуть в морозну лють.*
*Сприяють музикам моменти.*
*Своїми ж кістками всі виграють,*
*Як на музичнім інструменті.*

**Л. Юрэвіч**

ся, што мне яго пакінулі. Немцы прыйшлі ў Баранавічы за тры дні да таго, як бальшавікі меліся выслаць тату ў Сібір на пяць гадоў.

**«Б.»:** *Спадарыня Івонка, на заканчэньне размовы: адкуль у Вас бяруцца сілы, каб працаваць на пасадзе, якая вымагае столькі моцы?*

**І. С.:** Я ўсё жыцьцё душой на Беларусі. І гэтая ўнутраная повязь зь Беларусьсю і ёсьць тое, што дае сілы працаваць. Гэта вялікі гонар для мяне быць на гэтай пасадзе. Вельмі каштоўны досьвед грамадзкай працы я мела, ачаляючы Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля. Калі мы пачыналі, ніхто ня верыў, што нешта з гэтага будзе. Але я была пераканаваная, што справа мусіць пайсьці, што мы мусім дапамагчы ахвярам Чарнобыля. Цяперака гэты фонд — чыста канадыйская арганізацыя: ва ўправе 21 асоба, зь іх толькі тры беларусы, рэшта — канадыйцы. Штогод 600 канадыйскіх сем'яў прымаюць беларускіх дзяцей. Да апошняга часу, пакуль Лукашэнка не забараніў высылаць дапамогу, мы высылалі рэчы людзям цэлымі кантэйнэрамі. Калі чалавек верыць, дык ён сапраўды можа зьвярнуць горы. І я моцна веру, што мы асягнем незалежнасьці, якая нам так патрэбная, каб народ наш нарэшце пачаў жыць па-людзку.

**Гутарыла Ілона Урбановіч**

## *ЛІТАРАТУРНАЯ СПАДЧЫНА: НОВЫ ЎГЛЯД*

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

### Памяці др. Вітаўта Тумаша

*Аддайся, голас, горам біты,*
*Упраўнай гібкасьці пяра!*
*Пара, мой верш, табе, пара*
*Спатоліць сэрца боль сукрыты!*
***Ул. Дудзіцкі***

**Уладзімер Дудзіцкі — імя, параўнальна нядаўна ўведзенае ў кантэкст літаратуры. Але калі ягоная творчасьць ужо становіцца тэмай досьледаў, жыцьцёвы шлях паэта па-ранейшаму застаецца па-за ўвагаю дасьледнікаў. Ліст, што друкуецца ніжэй, быў напісаны 30.06.55 тагачаснаму дырэктару БІНІМу як адказ на прапанову заняць пасаду дырэктара беларускай сэкцыі радыё «Вызваленьне» («Свабода»). Заўважым толькі: пакуль што ані рукапісы зборнікаў, ані навуковыя працы, ані артыкулы з газэтаў, пра якія піша Дудзіцкі, ня знойдзеныя.**

Дарагі доктар Тумаш!

Ліст Ваш з дня 12.06 атрыманы. Прыемна, што маленькае непаразуменьне, укліненае ў пачатак нашага супрацоўніцтва, не зрабіла жаднага ўплыву й адразу заламалася ў сваім няпосьпеху. І праўда тое, што няма добрага без благога.

Пра выданьне Альманаху («Ля чужых берагоў») даведаўся нядаўна: спачатку напісаў мне сп. Юрка Віцьбіч, а пазьней і сам сп. др. С. Станкевіч. У лісьце паважанага доктара гаварылася пра вызначаныя вершы й пра час выхаду Альманаху з друку. Я не падаў ніякае думкі, што да адбору вершаў, бо ўважаў гэта правам самога выдаўца. Ваш ліст дапоўніў папярэднія спавешчаньні, і я поўнасьцю згодны з Вашымі заўвагамі, што да ўключэньня іншых вершаў у згаданае вышэй выданьне. Вашую прапанову рыхтаваць зборнік вершаў ня толькі помню, але й чытаю сёньня: у Вашым лісьце ад 7.04.1950 гаварылася наступнае: «У апошнім нумары «Божым Шляхам» кінуўся мне ў вочы Ваш верш «Цьмяныя плямы». Ён, як і другі верш «Дымяцца хмары», зрабіў на мяне моцнае ўражаньне. Трэба думаць пра зборнік».

Вельмі прыемнымі былі й Вашая думка й Вашая прапанова, аднак, бяручы на ўвагу нават і тое, што першы зборнік быў ужо гатовым яшчэ ў 1943 г., нічога ня мог зрабіць: ня меў часу ні на карэкту, ні на канчальны адбор твораў. Па-першае, мусіў шмат працаваць, каб не загінуць ды, як кажуць, 'выйсьці ў людзі' ў незнаёмым, эгаістычным і бяздушным сьвеце; па-другое, мусіў адбіваць брудныя паклёпы й мэтадычныя атакі камуністычных правакатараў, што выходзілі з тонка змайстраванай камбінацыі расейцаў-маскалёў, пуэртарыканцаў і вэнэцуэльцаў. Правакацыя набрала сілы й бессаромнасьці асабліва ў 1951 годзе, калі выйшла ў сьвет напісаная й перакладзеная мной у гішпанскую мову антыкамуністычная лятучка «Pueblo libre de Venezuela!» (У гэты час я належаў да А.Б.Н. у Вэнэцуэле й працаваў у якасьці заступніка старшыні).

Гэтымі днямі пачаў апошні перагляд зборнікаў і адзін зь іх — першы — перашлю ў набліжэйшым часе. Перапісваю начыста й зборнік прозы «Зоры зямныя». Пры першай магчымасьці пачну ладаваць асобныя выразкі й перадрукі з гішпанскае прэсы, бо бальшыня з надрукаванага захавалася ў адным экзэмпляры. Спачатку, аднак, перашлю весткі, што да працы «Лясныя багацьці Вэнэцуэлы», выказваньні прэсы пра дзейнасьць у галіне батанікі, лесазнаўства, культыва-сельска-гаспадарскіх культураў краю.

Коратка пра радыёперадачы «Вызваленьня». З гледзішча матар'яльнага ня маю ніякіх падстаў пакідаць Вэнэцуэлу. Забясьпечаны й маю ўсе магчымасьці, як кажуць, стаць нагамі на ўласны грунт, іншымі словамі — стацца гаспадаром вялікае фармы на новых землях (прапанавала дзяржава нехаця сьмяюся ды прыгадваю Коласавага дзядзьку ў Вільні). Прызнаньне й службовае становішча (дырэктар Экспэрымэнтальнага Цэнтру Аграрнага Інстытуту й Міністэрства Земляробства ў вобласьцях эўрапейскіх каляністаў) паставілі мяне ў роўніцу прывіляванай інтэлігэнцыі краю (гэта, аднак, ня выключае магчымасьці раптоўнага падзеньня: у краінах Паўдзённае Амэрыкі няма немагчымых рэчаў). Зрэшты, усе гэтыя плюсы й мінусы ня вельмі мяне цікавяць, галоўнае палягае ў іншым. Я падыходжу да Вашае прапановы з гледзішча нацыянальнага, з гледзішча нацыянальнай карысьці маёй працы й, нарэшце, з гледзішча духоўнага самазахаваньня. Нацыянальны бок справы — ясны, як Божы дзень; нацыянальная карысьць працы палягае ў чысьціні беларускай крыві, у нязломнасьці й вытрываласьці духу й сэрца; трэба-ж зубамі вырываць чорную карту жыцьця з крывавых рук чырвонага акупанта-далакопа! Калі нацыянальная рэвалюцыйная інтэлігэнцыя й Урад БНР уважае кандыдатуру маёй асобы карыснай і патрэбнай, я не магу не згадзіцца й ня прыняць Вашую прапанову.

Шчырыя прывітаньні ўсім сябрам Інстытуту.

**Ул. Дудзіцкі**

## ПОШТА

# ЯШЧЭ АДЗІН ЗАБЫТЫ ЮБІЛЕЙ

У газэце «Беларус» (№ 451, люты 1998) К. Акула ў артыкуле «Юбілей Згуртаваньня Беларусаў Канады» цытус часапіс «Зважай» (№ 3 (63), верасень 1991): «У 1946 г. у Вялікай Брытаніі паўстала першая арганізацыя самапомочы — Згуртаваньне Беларусаў Вялікай Брытаніі (на гэта раней быў атрыманы дазвол ад штаба польскіх збройных сілаў, што былі пад брытанскай камандай і дзе было нас, беларусаў, звыш 30 тысячаў — К.А.).»

Фактычна беларуская арганізацыя паўстала не ў 1946 годзе, а 18 студзеня 1947 году на сваім Першым зьезьдзе, які быў скліканы на праваслаўнае Вадохрышча, калі праваслаўныя беларусы мелі нагоду прыехаць у Лёндан на багаслужбу.

Хачу заўважыць, што аснова ЗБВБ была закладзеная не ў Вялікабрытаніі, а ў Італіі (у горадзе Мадэна) ў польскай гімназіі, якая пачала сваю дзейнасьць у лістападзе 1945 году. Выкладчыкам гісторыі быў там беларус — праф. Вінцук Грышкевіч. Там-жа вучылася некалькі беларусаў, якія ў вайну займаліся на Бацькаўшчыне ў беларускіх настаўніцкіх сэмінарыях або іншых сярэдніх школах.

Запазнаўшыся з праф. Грышкевічам, яны час ад часу спатыкаліся зь ім за горадам або ў адной італьянскай хаце. Грышкевіч цікавіўся падзеямі на Беларусі пад нямецкай акупацыяй і беларускай дзейнасьцю. На гэтых спатканьнях мы абгаворвалі недалёкую будучыню, як сваю, так і тых беларусаў, якія былі ў польскай арміі ген. Андэрса.

Лёс Беларусі быў нам добра вядомы. Мы разумелі, што польская армія будзе распушчана, шмат хто зь беларусаў дамоў не паедзе, і таму, пакуль былі мы яшчэ разам, нам трэба было нешта рабіць.

Тады-ж было пастаноўлена: 1) шукаць жаўнераў-беларусаў; 2) вясьці зь імі ўсьведамляючыя гутаркі й 3) трымаць кантакт. Была гэта цікавая работа, і тут я заўважыў два гатункі беларусаў. Адныя — што былі вывезеныя саветамі ў Сібір, і другія — што трапілі ў польскую армію з-пад нямецкай акупацыі. Першыя аказаліся часткова апалячаныя, беларуская справа цікавіла іх мала, а другія безь ніякай прапаганды й намовы ахвотна выказвалі сваю гатоўнасьць уступіць у беларускую арганізацыю.

Тут варта згадаць, што ў польскай арміі была й другая гімназія — у 3-й Карпацкай дывізіі, там-жа была група беларусаў-гімназыстаў, якія таксама прыйшлі ў польскае войска з-пад нямецкай акупацыі й былі нашымі сябрамі. Пасьля пераезду польскай арміі зь Італіі ў Англію ў другой палове 1946 году была навязана сувязь паміж беларусамі гэтых дзьвюх польскіх гімназіяў.

Час не чакаў, і таму, пры адпаведнай нагодзе, на Вадохрышча, быў скліканы ў Лёндане I Зьезд Беларусаў, на якім і была заложана першая беларуская арганізацыя ў Вялікабрытаніі — ЗБВБ. Як і трэба было спадзявацца, на старшыню арганізацыі абралі яе ініцыятара праф. В. Грышкевіча.

Вярнуўшыся са зьезду ў Чыслдан (дзе знаходзілася гімназія) недалёка гораду Суўндан, Грышкевіч атрымаў пісьмо, у якім дырэкцыя гімназіі паведамляла, што ён звальняецца з працы й адсылаецца ў свой аддзел.

Нашая група гімназыстаў засталася вучыцца да канца навучальнага году, але пасьля й яе разагналі. Справа беларусаў польскай гімназіі ў 5-й дывізіі дайшла да ведама генэрала гэтай дывізіі Н. Суліка, які прыехаў у Чыслдан, але тут ужо беларусаў ня было — іх адаслалі па сваіх аддзелах. Недалёка знаходзіўся толькі П. Навара, да яго й паехаў Сулік. Пасьля гутаркі Сулік пабачыў Навару, што беларусы змогуць вучыцца далей і сказаў, каб П. Навара паведаміў сваім сябрам: няхай складаюць заяўкі ў ліцэй. Застаецца незразумелым, чаму гэтай справай не занялася дырэкцыя гімназіі.

Калі ў 1972 годзе арганізацыя ЗБВБ сьвяткавала свой 25-гадовы юбілей, прыехаў з Канады яе закладальнік В. Жук-Грышкевіч. У сваёй прамове ён адзначыў, як цяжка было яму дамовіцца зь беларусамі, якія, як і ён, былі вывезеныя ў Сібір — каб зарганізаваць беларускае згуртаваньне. Аднак калі ён спаткаў маладых хлопцаў з гімназіі, то пабачыў, што яны ведалі, чаго хочуць, і тут ня было праблемы.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі сьвяткаваньня да мяне зьвярнуўся П. Асіповіч, былы гімназыст: «Паглядзіш, Юрка, што мы яшчэ адсьвяткуем 50-я ўгодкі ЗБВБ, але ці ўсе дажывём». Дажыў ён да 50-х угодкаў, толькі не адсьвяткаваў... і хутка памёр.

Знаючы тагачасныя абставіны, я ня веру, што ў Вялікабрытаніі магла-б паўстаць беларуская арганізацыя з вывезеных у Сібір беларусаў. Гэтыя людзі баяліся ня толькі рабіць нешта беларускае, але нават гутарыць самнасам па-беларуску. Быў адзін беларус, афіцэр польскае арміі П. Сыч, які пісаў лісты да Грышкевіча па-беларуску, але на зьезьдзе яго ня было.

Такім чынам галоўнымі ініцыятарамі залажэньня ЗБВБ былі маладыя беларусы — выпускнікі беларускіх сярэдніх школаў пад нямецкай акупацыяй, якія пасьля былі кадэтамі Афіцэрскай школы Беларускай Краёвай Абароны (БКА).

Так выглядае ў скароце справа залажэньня ЗБВБ, якая павінна была адсьвяткаваць летась свой залаты юбілей.

**Юры Весялкоўскі, Лёндан**

---

Прывітаньне, дарагая рэдакцыя!

Пішу вам, каб расказаць, як разьвіваецца Адраджэньне на Беларусі.

Зараз на Беларусі, як вядома, пануе дыктатарскі рэжым: забароненая воля друку, воля слова, садзяць беларускіх патрыётаў у турмы, забараняецца ўсё беларускае й насаджваецца ўсюды расейскае. Але й мы не губляем часу. Праводзім рок-канцэрты, дыскатэкі, шоў-віктарыны. Гэта ўсё робіцца зь ініцыятывы «Маладога Фронту», які дзейнічае ня толькі ў Менску, але й у іншых месцах Беларусі.

Яшчэ праводзіліся два аліміпійскія прабегі. Адзін зь іх адбываўся пад лёзунгам «Свабоду вязьням сумленьня» й быў прысьвечаны В. Лабковічу, А. Шыдлоўскаму й В. Кабанчуку.

Нядаўна іх судзілі. Я хачу запытацца ў так званых «судзьдзяў»: за што? За тое, што яны любяць сваю Бацькаўшчыну? Ганьба тым «господам», якія за грошы прыхіляюцца да рэжыму! Ганьба ўсім тым, хто ня любіць свабоды й ператвараецца ў быдла, якое за грошы можа прадаць нават родную маці.

Рада «Маладога Фронту» выдае газэту «Маладзёвы веснік», у якой друкуюцца артыкулы пра палітычнае й культурнае жыцьцё, а таксама гумар і карыкатуры. На газэту можна падпісацца — US$30 на год.

Для ажыцьцяўленьня нашай дзейнасьці мы маем патрэбу ў фінансавых сродках. Таму мы прадаем касэты беларускіх рок-гуртоў (*Новае Неба, Крама, NRM, Уліс, Новы Ерусалім*). Кошт 1 касэты US$20, за 10 касэтаў — US$100. Падпіску й замаўленьні на касэты разам з чэкамі (на імя *Кулак Віктар*) дасылаць на адрас:

**Віктар Кулак**
вул. Мядзьвежына 11-1
Менск 220018
BELARUS

---

Дзень добры, паважаная рэдакцыя «Беларуса»!

Сёньня я ўпершыню пабачыў Вашу газэту й адразу вырашыў напісаць.

Кожны ведае, у якім бядотным становішчы знаходзіцца нашая Радзіма. Але замала папросту ведаць і смуткаваць. Трэба працаваць! Працаваць штодня. І нягледзячы ні на што, трэба, каб кожны патрыёт зрабіў сваю ахвяру на алтар Бацькаўшчыны. Усякая ахвяра, малая ці вялікая, гэта сёньня подзьвіг дзеля будучыні. І калі кожны патрыёт зробіць сваю маленькую справу, то такія-ж маленькія справы тысячаў і тысячаў беларусаў зьднаюцца ў адну вялікую. І імя ёй будзе Вольная й Магутная Айчына.

Менавіта дзеля гэтага ў Менску патрыятычная моладзь стварыла Брацтва імя князя Канстанціна Астрожскага.

Імя гэтае залатымі літарамі ўнесена ў гісторыю нашага краю. Славуты ваяр, вялікі асьветнік, папросту мужны чалавек, ён яшчэ пры жыцьці стаў легендай.

У наш час менавіта такіх людзей, як Астрожскі, нам так не хапае! Менавіта таму мы назвалі сваю арганізацыю імем гэтага славутага беларуса. Гэта вялікі гонар, але гэта й вялікая адказнасьць.

Мы вырашалі зьвярнуцца праз Вашую газэту да ўсіх, для каго Беларусь ня проста слова на мапе. Лёс раскідаў наш народ, па ўсіх кутках сьвету. Але ўсе мы ганарымся тым, што мы беларусы, ва ўсіх нас баліць сэрца за родную краіну. Таму заклікаем патрыётаў Беларусі, дзе б яны ні жылі: будзем разам! Таму што калі мы разам — мы сіла, калі мы разам — мы непераможныя, калі мы разам — мы Нацыя. Зьяднайма свае высілкі дзеля агульнай справы!

Усіх, хто жадае нешта зрабіць дзеля сваёй айчыны, заклікаем ліставацца на адрас:

а/с 408 «Б»
220131 Менск-131
BELARUS

Жыве Беларусь!

## НОВЫЯ КНІГІ

**Philip Marsden. The Bronski House. A Return to the Borderlands.** London: Harper Collins.

Аўтар кнігі, Філіп Марсдэн, яшчэ школьнікам пазнаёміўся з Зофіяй Бронскай, паэткай, якая піша па-польску і па-ангельску. Яе маці, Гэлена Бронская (сапраўднае прозьвішча Брахоцкая), была ўладальніцаю маёнтка Морына, што на поўнач ад Наваградка. У верасьні 1939 году маці й дачка Бронскія мусілі ўцякаць ад «освободительной Красной Армии» ў Летуву. Праз Эстонію, Швэцыю, Нарвэгію ў сьнежні 1939 году яны дабраліся да Брытаніі, дзе й засталіся жыць.

Гэлена Бронская вяла дзёньнік. Гэты дзёньнік, асабістае знаёмства з Бронскімі, наведваньні Беларусі (на пачатку 90-х Ф. Марсдэн двойчы наведваў Беларусь, у прыватнасьці Наваградчыну, дзе сустракаўся зь мясцовымі людзьмі) — усё гэта паспрыяла разьвіцьцю цікавасьці Ф. Марсдэна да гісторыі роду Бронскіх. Аднак аўтар нямала месца прысьвячае Беларусі й беларусам.

У кнізе гаворыцца між іншага пра варожасьць, нянавісьць тутэйшага жыхарства да шляхты. Канфлікты (звычайна за лес) скончаліся прыездам узброеных паліцыянтаў.

У часе Першае Сусьветнае вайны, у 1920 годзе, дом Бронскіх згарэў, аднак уладальнікі збудавалі яго нанова. Калі ў 1923 г. Бронскія перасяліліся ў новаадбудаваны дом, адзін зь сялянаў, бачачы вазы з рэчамі, засьмяяўся: «Так, паночку, цяпер будзе што рабаваць».

Другая Сусьветная вайна зноў прынесла разбурэньне: зімою 1941—1942 гг. двор спалілі, па словах мясцовых людзей, «чырвоныя партызаны». Мо гэта рабілася паводле словаў Леніна «... спаліце гняздо — і птушкі ня вернуцца ў яго», выказвае меркаваньне аўтар кнігі. Прачытаўшы пра падобнае, лепш разумееш, чаму на Беларусі так мала засталося старажытных маёнткаў, палацаў, спракавечных цэркваў ды касьцёлаў. Усё гэта зьнішчылі людзі, для якіх чужое багацьце, як і чужая гістарычная спадчына, станавілася раздражняльнікам. Нажаль, тутэйшы люд таксама не заўсёды шанаваў старасьвеччыну.

Кніга «Двор Бронскіх» чытаецца лёгка, з ахвотаю. Аднак нельга пагадзіцца зь перадачаю геаграфічных назоваў, якія падаюцца ў польскім графічным абліччы: *Наваградак —Nowogródek, Клепкавічы — Klepkowicze* ды г. д., а замест ужо агульнапрынятага *Belarus — Belorussia*.

**М. Швэдзюк**

# СЬВ. ПАМЯЦІ МІХАСЬ ТУЛЕЙКА



6 сакавіка ў Томс Рывэры, Нью Джэрзі, памёр адданы грамадзкі дзеяч і працаўнік на ніве Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Міхась Тулейка.

Нарадзіўся Міхась Тулейка 8 верасьня 1915 г. у Нясьвіжы. Пачатковую й сярэднюю асьвету атрымаў у родным горадзе. Па сканчэньні ў 1935 г. польскай настаўніцкай сэмінарыі быў узяты ў войска, вучыўся ў афіцэрскай школе ў Снове.

У 1939 г. перад самым пачаткам нямецка-польскай вайны быў змабілізаваны й месяц прабыў на фронце ва Ўсходняй Прусіі. Адтуль ягоную вайсковую частку перакінулі пад Варшаву. У часе абароны Варшавы Міхась Тулейка быў цяжка паранены й трапіў у нямецкі палон. Немцы абмянялі каля пяці тысячаў польскіх ваеннапалонных, якія паходзілі зь земляў, далучаных да Савецкага Саюзу, на гэткіх-жа палонных, што паходзілі з заходняй Польшчы й былі ў палоне ў Саветаў. У выніку гэтага абмену ў канцы 1939 году Міхась апынуўся дома й два гады адпрацаваў настаўнікам у Нясьвіжы пры савецкай уладзе.

У часе нямецкай акупацыі Беларусі М. Тулейка працаваў спачатку дырэктарам пачатковай школы ў Нясьвіжы, а калі адчынілася настаўніцкая сэмінарыя (у якой налічвалася 500 вучняў), стаўся заступнікам дырэктара сэмінарыі. Быў дэлегатам Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся ў канцы чэрвеня 1944 году. Тады-ж эвакаваўся зь Беларусі ў Нямеччыну.

Па сканчэньні вайны вучыўся ў Рэгензбурзе ва Ўкраінскім Вольным Унівэрсытэце, а пасьля ў Мюнхэне ў унраўскім (УНРРА) унівэрсытэце. Там быў адным з заснавальнікаў і першым старшынём Беларускага Студэнцкага Згуртаваньня ды сябрам рэдкалегіі часапісу «Крывіцкі сьветач». Садзейнічаў беларускаму скаўтынгу. У 1948 годзе стаўся сябрам Рады БНР. Быў на апошнім сэмэстры аграноміі, калі ўзьнікла магчымасьць эміграваць у Злучаныя Штаты.

Пасяліўшыся ў Нью Ёрку, Міхась Тулейка ажаніўся з Вольгай Стэльман і актыўна ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. Іхная гасьцінная кватэра, а пасьля й свой дом сталіся месцам сяброўскіх сустрэчаў і розных грамадзкіх чынаў. Міхась Тулейка актыўна

(Працяг на с. 8)

Даражэнькі Міхась!

Нам паведамілі, што Ты памёр. Для нас Ты не памёр, а толькі адыйшоў у жыцьцё вечнае, такія людзі не паміраюць, а толькі адыходзяць.

Памятаю час, калі Ты вучыў у Валожынскай школе беларускіх дзетак сьпяваць «Люблю наш край» — Ты вучыў іх любіць Беларусь, як любіў яе сам. Памятаю час, калі савецкія янычары напалі на Заходнюю Беларусь, Ты, апрануўшы ваенную уніформу, у чыне лейтэнанта стаў у шэрагі «Самааховы».

Памятаю час, калі Ты, ужо будучы ў ЗША, зарганізаваў беларускіх вэтэранаў, каб сымболь нашай мінуўшчыны аднавіць на амэрыканскай зямлі. Дык сьпі пад курганам Герояў. Штандар, высака несены Табою, мы нізка схіляем над Тваёй магілай.

**П. Кулеш**

Выказваю шчырую ўдзячнасьць усім тым, хто маральна й фінансава (грошы, канвэрты) падтрымаў мяне ў цяжкую часіну страты мужа **МІХАСЯ ТУЛЕЙКІ** тым, хто прыслаў кветкі на яго магілу.

**Вольга Тулейка**

## СЬВ. ПАМЯЦІ АЎГЕН СЕМЯНЧУК

Любы муж Лёлі Семянчук, дарагі бацька др Элізабэты М. Семянчук і Джорджа В. Семянчука, родны брат Яніны Кэртэс Аўген Семянчук памёр 12 красавіка.

Аўген паходзіў з старога беларускага роду з Заходняй Беларусі. Перажыўшы польскую, савецкую й фашысцкую акупацыі, Семянчукі апынуліся ў заходняй Нямеччыне, перш у польскім лягеры, а пазьней пераехалі ў беларускі лягер у Віндышбэргэрдорфе. Тут Аўген, ягоная сятра Ніна й брат Кастусь пайшлі ў беларускую школу. Хутка Аўген перайшоў у гімназію імя Янкі Купалы. Прыйшлося хадзіць пешкі ў лягер Міхэльсдорф, дзе знаходзілася гімназія. Аўген ніколі не прапускаў заняткаў, любіў асьвету і таму вучыўся выдатна.

Затым сям'я пераехала ў іншы беларускі лягер — Розэнгайм, дзе Аўген працягнуў навуку ў беларускай гімназіі. З часам Семянчукі выехалі ў ЗША. Тут Аўген пачаў вучыцца ў тэхнічнай школе, рыхтаваўся адчыніць сваё прадпрыемства Electric-All TV and Appliances.

Аўген Семянчук шчыра дапамагай суродзічам, калі яны зварочваліся да яго ў патрэбе. Па натуры быў ён спакойны і ахвярны.

Паніхіда была адслужаная ў беларускай царкве Жыровіцкае Божае Маці. Пахавалі Аўгена Семянчука ў сераду 15 красавіка а 10 гадзіне раніцы на могілках Рывэрсайд.

Вечная Табе памяць!

**Сябры й навучэнцы Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы.**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ВЕРА ДУМЯК



У лютым у горадзе Ньюкасл, Аўстралія, памерла Вера Думяк (з дому Русак), аставіўшы ў смутку дачку Аню, сына Івана й чацьвёра ўнукаў. Нарадзілася Вера Думяк 10 кастрычніка 1939 году ў вёсцы Любішчыцы Івацэвіцкага раёну Берасьцейскай вобласьці. Выйшла замуж за ўкраінца з Галіччыны. Спачывай у спакоі!

**Ул. Русак**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ПАВАЛ ПАЧОПКА

6 сакавіка спачыў Павал Пачопка. Незадоўга ён меў цяжкую апэрацыю, але гэта не дапамагло. Пакінуў у жалобе сястру й пляменьніцу.

Нарадзіўся Павал Пачопка 16 студзеня 1921 году ў Глыбокім на Віцебшчыне. Быў добрым беларусам, увесь час ужываў беларускую мову. Многа ён уклаў працы ў будову царквы БАПЦ у Адэлайдзе. Ад моманту пабудовы царквы ў 1963 годзе быў шчырым прыхаджанінам. Заўсёды адгукаўся на просьбу дапамагчы. Паніхіда была адпраўленая 11 сакавіка ў беларускай царкве ў Адэляйдзе.

Вечная Табе памяць, сябра Павал! Твае сябры будуць памятаць Цябе!

**У. Акавіты**

## УВАГА

Пры складаньні нэкралёгаў просім падаваць ня толькі дату сьмерці, але й **дату нараджэньня**, а таксама **месца нараджэньня й месца сьмерці**.

Дзеля таго, каб пазьбегчы непаразуменьняў, імёны й прозьвішчы, зьмешчаныя ў нэкралёгах, павінны давацца **па-беларуску**.

## СЬВ. ПАМЯЦІ НАДЗЯ МАРОЗ



6 сакавіка, на 76-м годзе жыцьця, у Пэйлатыне, Ілінойс, спачыла Надзя Мароз, пакінуўшы ў смутку дачку Ірэну і ўнучак Натальлю, Міхаліну ды Юлію.

Надзя Мароз нарадзілася 7 студзеня 1923 г. на Украіне. Як ішоў ёй 15-ы год, вывезьлі яе на працы ў Нямеччыну. Там яна й пазналася зь беларусам Міхасём Марозам, ваеннапалонным польскага войска з 1939 году. Яны пажаніліся, прыехалі ў Англію, дзе ў іх нарадзілася дачка, і ўжо ўтрох перабраліся ў ЗША.

Дачку Ірэну выхавалі сапраўднаю беларускаю патрыёткай, якая бярэ актыўны ўдзел у жыцьці мясцовай беларускай супольнасьці.

Перад сьмерцю Надзя малілася, каб хаця было добрае надвор'е і людзі не памерзьлі, хаваючы яе. Аж сталася так, што быў моцны мароз з завеяй, адключылі электрычнасьць — і гарэлі сьвечкі.

Ад беларускае каталіцкае парафіі хаваў нябожчыцу на могілках сьв. Адальбэрта айцец Янка МакДонэл. Няхай пухам будзе табе зямля!

**В. М.**

## СЬВ. ПАМЯЦІ ЯЗЭП (ДЖЭФ) КАСЬЦЮКЕВІЧ



20 сакавіка ў Фэніксе, Арызона, пакінуў зямлю Язэп (Джэф) Касьцюкевіч. У смутку засталіся маці Сэра С'ю, дочкі Тара й Джыл, бацька Юрка Касьцюкевіч і ягоная жонка Браніслава, сястра Марыя, цётка Анна Касьцюкевіч і стрыечная сястра Люда Колінс.

Язэп Касьцюкевіч нарадзіўся 21 верасьня 1957 году. Апошнія гады пакутаваў на дыябэт, што й сталася прычынаю яго заўчаснай сьмерці.

Пахаваны быў на праваслаўных могілках пры царкве сьвятых Пятра й Паўла ў Фэніксе.

Хай сон Твой будзе спакойны!

## АГЛЯД БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ




Пасьля пэўнага перапынку зноў пачала выходзіць газэта «Беларускі калекцыянер». У чарговым, 16-м ад пачатку выданьня, нумары аматары зьбіральніцтва знойдуць нямала цікавых зьвестак з фалерыстыкі, нумізматыкі, філятэліі. Асабліва кур'ёзнаю ўяўляецца наступная інфармацыя: у 1928 г. Менскае Таварыства «Прыхільнік дзяцей» праводзіла лятарэю, у якой, апроч лодачак жаночых, мукі пшанічнай, прымуса ды іншых неабходных рэчаў, можна было выйграць нават... барэльеф таварыша Калініна!

## НАВІНКІ

Назва новай газэты ў любога жыхара Менску асацыюецца з тым-жа, што й Бэдлам у насельнікаў Лёндану. Адным словам, Навінкі — гэта мясьціна, у якой знаходзіцца найбуйнейшая вар'ятня Беларусі. Гэтая назва выклікае й яшчэ адзін асацыятыўны ланцуг: «Навінкі» — памяншальнае ад «Навіны» (пад такою назваю выдаецца колішняя газэта «Свабода»).

І афармленьне газэты, і зьмест сьведчаць пра тое, што беларуская моладзь ня губляе аптымізму ды пачуцьця гумару нават у сёньняшняй драматычнай сытуацыі. Парадыйнасьць, сарказм, дасьціпнасьць — усімі гэтымі якасьцямі валодаюць аўтары матар'ялаў газэты.




Дапускаю, апошнюю кроплю, якая перапоўніла чару трываньня актывістаў Грамадзкага Навукова-Аналітычнага Цэнтру «Беларуская Пэрспэктыва», сталася фактычная адмова галоўнага рэдактара дзяржаўнага часапіса «Беларусь» друкаваць інтэрвію з Валянцінай Трыгубовіч, адной з заснавальнікаў Цэнтру.

Такім чынам, «Беларуская Пэрспэктыва» з сакавіка пачала выдаваць уласную аднайменную газэту. Апрача ўжо згаданага інтэрвію, у нумары мы знойдзем падрабязную інфармацыю пра дзейнасьць новастворанага Народнага Ўнівэрсытэту, які стаўся першай у Беларусі альтэрнатыўнай установай вышэйшае асьветы.




Газэта «Беларус Галічыны» выходзіць з 1995 г. Мы атрымалі сёлетні красавіцкі нумар, прысьвечаны пераважна 80-м угодкам БНР. У грунтоўным артыкуле архівіста Сяргея Рыбчонка расказваецца пра радавод Адама Міцкевіча (публікацыя прымяркоўваецца да 200-годзьдзя з дня нараджэньня вялікага паэта). Аднак найбольшы матар'ял нумару — «Беларусь: парыя альбо ахвяра? З допаведзі Брытанскай Гельсынскай групы па правох чалавека» — выклікае як найменш пачуцьцё недаўменьня.

Працытую толькі два месяцы ў перакладзе з расейскай, на якой пададзены тэкст дакумэнту. Першая цытата датычыць лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 году: «Брытанская Гельсынская група па правох чалавека накіравала чатырох прадстаўнікоў весьці назіраньне за ходам рэфэрэндуму... У адрозьненьне ад іншых груп назіральнікаў, якія самаўпэўнена заявілі аб парушэньнях у часе выбараў у Беларусі, дадзеная група ... прыйшла да нечаканай высновы, што ... правядзеньне канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 году калі й ня было абсалютна бездакорным, то нашмат лепшым за ўсе папярэднія выбары».

Па-першае, у дакладзе нічога не сказана пра тое, што галасаваньне на рэфэрэндуме фактычна пачалося за 2 тыдні (!) да абвешчанай даты, калі нават не існавала тэксту таго варыянту Канстытуцыі, за які прапаноўвалася галасаваць. Ці гэта ня сьведчыць аб тым, што рэфэрэндум ня мог мець ніякай прававой сілы?!

Па-другое, цьвердзіць аб хоць-бы адноснай праўнасьці згаданага рэфэрэндуму няма ніякіх падставаў. За правядзеньнем рэфэрэндуму я сачыў на адным зь менскіх выбарчых участкаў у якасьці афіцыйнага назіральніка. Сьведчу, што пасьля заканчэньня галасаваньня мяне ды іншых афіцыйных назіральнікаў ад самых розных партыяў і арганізацыяў (БНФ, Аб'яднаная Грамадзянская Партыя, Таварыства Беларускае Мовы, Кампартыя) выбарчая камісія не дапусьціла прысутнічаць пры падліку галасоў. На нашыя пратэсты старшыня камісіі зьвярнуўся да дзяжурных на ўчастку міліцыянтаў, якія сілаю перашкодзілі нам назіраць за падлікам галасоў. Гэткім чынам, былі створаныя ўмовы для найгрубейшай фальсыфікацыі вынікаў галасаваньня.

Аднак вернемся да тэксту даклада, у якім далей гаворыцца: «Нягледзячы на ўсе размовы пра «Сталіна» й «савецкага тырана», Лукашэнка можа аказацца, па іроніі лёсу, сапраўдным беларускім патрыётам». (Заўважым, што гэта сказана пра чалавека, які робіць усё, каб Беларусі як дзяржавы ня было!)

Гэтая фраза (і ня толькі гэтая) выклікае сумненьне ў тым, што перад намі сапраўдны дакумэнт.

Тут узьнікае пытаньне да галоўнага рэдактара газэты «Беларус Галічыны» Барыса Цімашэнкі: зь якой крыніцы ён атрымаў згаданы дакумэнт (інакш кажучы, ці не фальшыўка гэта), і чаму такі відавочна спрэчны матар'ял быў зьмешчаны без камэнтароў? Хтосьці на другое пытаньне могбы адказаць: для інфармацыі. Аднак прыведзены даклад утрымвае не інфармацыю, а дэзінфармацыю, і займацца такой справай выданьню Нацыянальна-Культурнага Таварыства «Белая Русь» імя Ф. Скарыны, відаць, не належалася-б.

**Падрыхтаваў агляд**
**Зьміцер Саўка**

## СМАЧНЫ КУТОЧАК

*І вось вячэра зачалася!*
*Спыніцца мушу я на квасе:*
*Ён колер меў чырванаваты;*
*Тут быў таран, мянёк пузаты,*
*Шчупак, лінок, акунь, карась,*
*Кялбок і ялец, плотка, язь,*
*Яшчэ засушаныя зь лета.*
*Але ня ўсё яшчэ і гэта:*
*Закрашан квас быў і грыбамі,*
*Выключна ўсё баравічкамі;*
*Цыбуля, перчык, ліст бабковы —*
*Ну, не ўясісь, каб я здаровы!*
*Пільнуй — цішком скажу між намі —*
*Каб і язык ня ўцёк часамі.*
*За квасам елі верашчаку,*
*А потым блінчыкі на маку,*
*А там ламанцы-праснакі*
*З пшанічнай добрае мукі;*
*А макаў сок такі салодкі!*
*Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —*
*Так добра макам праняліся,*
*У рот паложыш — абліжыся.*
*За праснакамі йшлі кампоты,*
*Кісель зь мядоваю сытою;*
*Вячэру скончылі куцьцёю.*

***Якуб Колас. «Новая зямля»***

Кажуць, чужая ежа то пячэ, то нудзіць, а свая заўсёды ў самы раз. Дзе-б ні быў — заўсёды памятаеш гэта. І то праўда: за вакном мангэтанскія хмарачосы, лёнданскі туман, аўстралійскі пэйзаж з кэнгуру, а як згатуеш зацірку, паставіш на стол верашчаку, нальеш крупнік — і весялей на сэрцы, і нібы дома, у сваёй хаце.

Нашая кухня — такая самая каштоўнасьць, як і ўсё, створанае народам, як казкі й песьні, як слуцкія паясы й кнігі, як цэрквы й абразы. І перахоўваць яе трэба гэтак-жа ашчадна, дбайна. І, у адрозьненьне ад тых самых слуцкіх паясоў, што даўненька можна пабачыць адно ў музэях, усе гэтыя стравы можна спажываць сёньня, самому есьці тое, што елі нашыя продкі, тубыльцы Вялікага Княства Літоўскага й паўстанцы Каліноўскага, месьцічы Вільні й Полацака, ды дзяліцца з астатнімі.

Дык вось пра што ходзіць. Будзьма час ад часу зьмяшчаць рэцэпты беларускія — і сваіх маем поўна, і вы, шаноўныя чытачы — найперш, вядома, чытачкі — дасылайце нам. І пажадаўшы адзін аднаму «Смачна зьесьці!», створым кнігу нашай нацыянальнай кухні. Каб елі мы самі й дзеткі нашыя ды здаравелі, а Лука каб зьеў ды задушыўся!

Вось толькі пачаць з чаго? А вось скажу зараз.

Жонка Янкі Станкевіча, Марыя, чэшка з паходжаньня, выдала — спачатку ў беларускай, а потым у ангельскай мовах — кнігу «Вялікалітоўская (Беларуская) кухарка». З рэцэпту адтуль мы й пачынаем.

***Зразы менскія.*** *2 фунты лепшага мяса, дзьве цыбуліны, паўфунту цёртага хлеба, колькі сухіх грыбоў, адзін кубак сьмятаны, адзін кубак навару, соль, перац, мушкат, адно яйка.*

*Парэзаць мяса на тонкія й доўгія зразы, добра выбіць, пасаліць, паперчыць, адставіць на паўгадзіны. Засмажыць цыбулю ў колках амаль на суха (з крыху туку-масла). Зьмяшаць з хлебам, дробна пасечанымі намочанымі грыбамі, выбіць яйка, пасаліць, паперчыць, дадаць мушкату, добра зьмяшаць. Палажыць мешанку на зразы, закруціць у трубку. Смажыць пад покрыўкаю абсыпаныя мукою зразавыя трубкі на крыху туку. Падліць навару або вады, сьмятаны, крыху грыбнога адвару (калі грыбы трэба было варыць, бо старыя), крыху цёртага хлеба. Тушыць усё разам добрую гадзіну залежна ад якасьці мяса.*

Ага, загаварыўся, ледзь не забыўся. Ці ведае хто рэцэпты страваў, што Колас назваў? Нідзе адшукаць не магу!

**Падкухцік**

## СЬВ. ПАМЯЦІ МІХАСЬ ТУЛЕЙКА

(Працяг з с. 7)

працаваў у Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні. Займаў становішча старшыні Нью Ёрскага Аддзелу БАЗА й Галоўнае Ўправы гэтай арганізацыі. Вёў скаўцкую працу. Арганізаваў беларускую скаўцкую грамаду пры парафіі сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Нью Ёрку. Ачаляў тут парафіяльную раду, кіраваў царкоўным хорам. Шмат гадоў кіраваў і выкладаў у беларускай суботняй школы. Зьяўляўся першым старшынём Згуртаваньня Беларускае Моладзі. Уваходзіў у склад рэдкалегіі часапісу «Віці».

Перасяліўшыся ў штат Нью Джэрзі, па сьмерці сьв. пам. Сяргея Гутырчыка ўзначальваў Беларуска-Амэрыканскую Вэтэранскую Арганізацыю, браў удзел у культурнай працы БАЗА. Быў старшынём беларускага камітэту, які ўдзельнічаў у Сусьветнай Выстаўцы ў Нью Ёрку ў 1964 г.

Паховіны сьв. пам. Міхася Тулейкі адбыліся 10 сакавіка ў царкве Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд Парку, прыхаджанінам якое быў нябожчык. Вялікая грамада сваякоў і паплечнікаў суправаджала яго ў апошні зямны шлях. Адпяваньне ў царкве адслужыў а. Васіль Андрэюк. Хорам кіраваў сп. Лявон Стагановіч.

Над магілай прамаўляў сп. Антон Шукелойць, старшыня БАЗА й блізкі супрацоўнік нябожчыка. З вэтэранскім сьцягам над магілай на беларускім магільніку ў Іст Брансуіку стаяў сп. Сяргей Мурог. Бел-чырвонабелы сьцяг, якім была пакрыта труна, сп. Янка Азарка, старшыня сэктару Рады БНР, перадаў жонцы нябожчыка.

За памінальным сталом згадкамі пра памерлага падзяліліся спсп. Янка Запруднік і Барыс Данілюк. Ува ўсіх прамовах адзначалася адданасьць Міхася Тулейкі справе служэньня свайму народу, сваім суродзічам, сваёй царкве. Усюды пры ягонай працы зь ім была ягоная верная спадарожніца жонка Вольга, якой прамоўцы выказалі ўдзячнасьць і спачуваньне.

Вечная памяць працавітаму сыну Беларусі Міхасю Тулейку!

Плён ягонага жыцьця трывалы й будзе жыць у далейшай працы ягоных наступнікаў.

**Я. З.**